Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 29 — (69). Вільня, 8 верасьня 1928 году. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

*Вільня, 8.IX.1928.*

Наказ п. Старосты гор. Вільні аб спыненьні працы Цэнтральнага Ураду Т-ва Беларускай Школы громкім рэхам адаб'ецца па ўсей беларускай зямельцы.

Прычыны, якія змусілі ўрад да гэнага кроку, дае нам адказ начальніка Кіртікліса, дадзены 31 жніўня ад імя п. Віленскага Ваяводы дэлегацыі беларускіх дзеячоў. З гэтага адказу відаць, што наказ гэты ня меў на мэце барацьбы з культурна прасьветнымі пачынаньнямі беларусаў і што выклікалі яго прычыны чыста палітычнага характару, а іменна апанаваньне паасобных аддзелаў (гурткоў) Т-ва элемэнтамі антыдзяржаўнымі і рэвалюцыйнымі, якія пад заслонай культурна-прасьветнай установы стараліся арганізаваць свае сілы.

Бязумоўна знойдуцца людзі, якія факту спыненьня працы Цэнтральнага Ураду Таварыства Беларускай Школы захочуць даць іншую ахварбоўку і будуць бачыць у ім новы этап барацьбы з беларускай школай.

Аднак пасьля дэклярацыі рэгіянальнай групы паслоў Безпартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам у справе беларускай школьнай прасьветы, уся недарэчнасьць гэткай ахварбоўкі была-б надта яскравай, бо трудна дапусьціць, што прадстаўнікі ўлады могуць вясьці лінію супярэчную тэй лініі, якую вядуць соймавыя прадстаўнікі групы, з каторай урад чэрпае свае сілы. Гэта адно.

З другога боку кожны, хто толькі меў магчымасьць бліжэй прыглядзецца жыцьцю Т-ва Беларускай Школы, ня мог не заўважыць тае унутранай барацьбы, якая вялася ў нетрах Т-ва паміж элемэнтамі нацыянальна культурнымі і кучкай палітыканаў, каторыя пад кірункам нейкага дырыжора глядзелі на Т-ва толькі як на плацдарм для гуртаваньня сваіх партыйных сіл. На жаль апошнімі часамі ўплывы палітыканаў перамаглі і Т-ва Беларускае Школы паволі пачынала адходзіць ад сваей простай мэты і інтарэсы культурна-прасьветнай працы ў ім усё больш і больш пачалі ўступаць мейсца інтарэсам палітыкі. У № 28 (68) „Бел. Дня", у артыкуле „На бездарожжы" мы пісалі аб шкоднасьці гэтага зьявішча для беларускага народу. Цяпер, дзякуючы яму, Т-ва Беларускае Школы, якое ў іншых варунках сапраўды магло-б стаць асяродкам культурна-прасьветнае беларускае працы на нашай бацькаўшчыне, знаходзіцца перад днём поўнае свае ліквідацыі. Беларускае грамадзянства павінна ўрэшце вызваліцца з пад уплыву кучкі палітыканаў, вядучых як у Грамадзе, так і тут сваю брудную работу, якая мае на мэце не дабро беларускага народу, не нацыянальныя яго інтарэсы, ня інтарэсы яго многамільённага сялянства, а інтарэсы далёкіх дырыжораў з Масквы.

Калі сапраўды далейшае істнаваньне культурна-прасьветнае ўстановы залежыць толькі ад таго, каб гэная ўстанова пакіну-

ла палітыку і занялася працай згодна статуту, гэта павінна быць зроблена і кучка палітыканаў, як непатрэбны і шкодны элемэнт павінен быць выкінуты з яе, ачышчаючы дарогу нацыянальна-культурным сілам.

## З праваслаўнага жыцьця.

У канцы жніўня адбылася ў Варшаве 3-х днёвая нарада праваслаўнае мэтрополітальнае рады. У гэтым годзе рада была пашырана запрошанымі прадстаўнікамі беларускага і украінскага праваслаўнага насельніцтва. Мэтай нарадаў было абгаворваньне справы скліканьня агульнага сабору праваслаўнае царквы. Было пастаноўлена склікаць сабор на чацьвёрты дзень Вялікадня (па стараму стылю) у Пачаеўскай Лаўры. Ад беларусаў былі прысутныя на нарадах духоўны Коўш, грам. Р. Астроўскі і М. Чатырка. На гэтай нарадзе адразу дайшло да спрэчкаў паміж прадстаўнікамі украінскага насельніцтва, а расейцамі. Гэтыя апошнія выступаюць востра і рашуча процiў украінізацыі, а заадно і беларусізацыі праваслаўнай царквы ў Польшчы. Цікаўна, што расейская прэса, асабліва эмігрантская „За Свабоду", абгаварываючы рэзультаты працаў нарады, даходзіць да сумных увагаў, дзеля толькі таго, што украінскія і беларускія прадстаўнікі закранулі справу украінізацыі і беларусізацыі царквы. Паводле іх гэта ёсьць палітыка, якая ня можа мець месца ў царкоўным жыцьці. Аднак мы зусім іншага пагляду. Калі справа ідзе аб нашыя землі, то беларусізацыя праваслаўнае царквы ёсьць для нас вельмі важнай праблемай. І якраз процiўстаўленьне замерам беларусізацыі і далейшае абслугоўваньне беларускага праваслаўнага насельніцтва духоўнікамі, якія ўважаюць сябе за расейцаў, або і зьяўляюцца расейцамі, ёсьць нічым іншым, як палітыканствам і русіфікацыяй беларускага насельніцтва. Аб гэтым можна пераканацца з тае шкоднае працы, якую вядзе ў некаторых асяродках, а асабліва сярод украінцаў, РНО.

Пераход да беларусізацыі якраз быў-бы радыкальным сродкам процiў дзейнасьці і лятуценьняў усіх былых людзей, якія апіраючыся сяньня на праваслаўе, маюць на мэце зусім іншыя мэты палітычнага характару. Для іх праваслаўе і духоўнікі расейцы зьяўляюцца падпорай, апіраючыся на якую, яны думаюць зусім выразна і адкрыта аб адбудаваньні „Вялікай Нацыянальнай Расеі".

Тымчасам адно зьяўляецца тут найважнейшым. Духоўнік, пастыр павінен прытарнавацца да патрэбаў і вымогаў сваіх парахвіян, якіх ён абслугоўвае, бо гэта ёсьць яго абавязкам. Што так павінна быць—няма сумліву. Тады шкада часу на спрэчкі. Беларусы і украінцы дамагаюцца, каб царква не пераходзіла міма рэлігійных справаў гэтых народаў і каб слова Божае несена было ў родным іх языку. Так павінна быць і так будзе.

---

Аднача́сна з адбываючаюся нарадай мэтрапалітальнай рады ў Варшаве, запрошаны на яе сэн. Багдановіч, ад удзелу ў ёй адказаўся, матывуючы свой крок тым, што ён не прызнае таго праўнага парадку царквы ў Польшчы, які маем, а за свайго духоўнага зьверхніка ўважае быўшага віленскага архірэя Элефэрыя, які цяпер знаходзіцца ў Коўне.

Арх. Элефэры да гэтай пары ўважае сябе архірэям віленскім. Характэрна, што праз некалькі дзён па заяве сэн. Багдановіча, газэты данесьлі аб тым, што Вальдэмарас прызнаў Элефэрыя, як архіепіскопа віленскага і ковенскага і залежнасьць яго ад Сяргея маскоўскага. Такім чынам сэн. Багдановіч рэпрэзэнтуе ў нас тых, якія хацелі-б праваслаўную царкву на нашых землях

---

## Становішча студенскае моладзі ў беларускім сучасным руху.

У адраджэнскіх радох кожнага народу заўсёды адно з перадавых месцаў займала моладзь, пераважна студэнская, якая з натуры чулая на ўсялякае ўражаньне і з вялікім запасам нявычарпанай сілы кідалася ў барацьбу за агульнанародныя ідэалы.

Беларускі адраджэнскі рух таксама ня менш выказвае ўчасьця ў ім студэнтаў, якія былі аднымі з першых пачынальнікаў адраджэньня, як на нацыянальным, так і на соцыяльным грунце. У той час, калі не магло быць яшчэ мовы аб агульнай сьведамасьці шырокіх масаў, то ўжо, ня гледзячы на ўсе акружаючыя перашкоды, у вялікшых унівэрсытэцкіх цэнтрах гуртавалася сьвядомая беларуская моладзь і вошчупкам шукала тых шляхоў, па якіх мы ідзём сягодня.

Пасьля, з ходам адраджэнскае хвалі беларуская студэнская моладзь заўсёды прыймала ўчасьце ў грамадзянскай дзейнасьці і заўсёды ўносіла свае маладыя сілы да агульнанароднае скарбніцы.

Цяпер-жа робячы агляд дзейнасьці студэнскае моладзі ў сучасным беларускім руху, мусім, перадусім, крыху спыніцца на ўсіх тых абставінах і варунках, у якіх апынулася сучасная наша студэнская моладзь.

Апошнія дні ў беларускім руху адзначаюцца пасыўнасьцю, бракам энэргіі і бядзёрасьці ў ваўсякім пачынаньні, а бярэ верх нейкая асабістая нязгода сярод кіраўнічых колаў беларускага грамадзянства.

Гэты крытычны пераходны мамэнт у беларускім грамадзянскім жыцьці зрабіў пэўны ўплыў і на псыхіцы моладзі, аднак ня ў той ступені як на старэйшым грамадзянстве.

Гаворучы аб беларускай студэнскай моладзі дзеля прычынаў тэхнічнага характару ня прыходзіцца гаварыць аб моладзі Усходняе Беларусі, а прыйдзецца толькі агранічыцца жыцьцём студэнства Заходняе яе часткі і студэнскай эміграцыі, перадусім у Чэхаславаччыне.

Апошнія, будучы на чужыне і знаходзячыся ў цеснай сувязі з усім славянскім і іншых народаў студэнствам, праяўляюць сваю дзеяльнасьць перад усім на міжнародным грунце і ствараюць такім чынам, амаль адзіную сталую сувязь Беларусаў з заграніцаю.

падпарадкаваць Маскве. Ці для беларускага нацыяналянага руху такая пастаноўка справы дае якія пазытыўныя вынікі — трудна судзіць.

## Уражаньні з Рэгіянальнае выстаўкі.

Рэгіянальная выстаўка, якая ўжо хутка будзе зачынена, дае багаты матар'ял для ацэнкі таго аграмаднага поступу, які ў працягу апошніх 10-х год зрабіла наша зямелька на абшарах, абнятых Віленскім і Наваградзкім ваяводзтвам у галіне культурнай і гаспадарчай.

Матар'ялы гэтыя на выстаўцы ня кідаюцца ў вочы, шмат людзей каля іх праходзіць міма, гэта матар'ял сухі, які ня песьціць вока.

Знойдзеце яго ў шэрагу табліц, каторымі прыбраны калідоры і пакоі выстаўкі і каторыя красамоўна кажуць аб магутным поступе жыцьця на нашых зямельках. Перад говарам гэтых лініяў і цыфр, чорным па беламу рысуючых здабычы ў галіне школьнай прасьветы, земляробства, будаўніцтва, коопэрацыі і г. д., якжа-ж сьмешнымі выглядаюць пераканаьні пэсымістых, кажучых, што ўсё ў нас ідзе да горшага.

І калі прыняць пад ўвагу, што ўвесь гэты працэс культурнага і гаспадарчага будаўніцтва адбываўся ў варунках вельмі цяжкіх, ў варунках поўнай руіны гаспадарчага жыцьця, калі трэба было будаваць з самога пачатку, з самых фундамантаў, то бачучы рэзультаты гэтага аграмаднага поступу ў жыцьці нашае зямелькі, ня толькі ня можа быць мейсца пэсымізму, а наадварот, трэба дзівавацца толькі тэй аграмаднай энэргіі і творчай сіле, якая ёсьць у нетрах нашага грамадзянства і ня гледзячы на ўсе перашкоды пракладае сабе шлях да лепшага, ясьнейшага жыцьця.

Так рэгіянальная выстаўка наглядна паказала, што чорныя дні гора і нэндзы засталіся за намі і краіна пэўным шляхам ідзе да лепшае долі.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Аб пераходзе на хутары

(Як даконваецца пераход са шнуроў на хутары гл. № 27 „Бел. Дня).

Пасьля ацэнкі зямлі ў шнурох землямер прыступае да нарэзкі хутароў, спачатку на паперы, ці г. зв. праекту сцалкаваньня грунтаў. *Трэба адзначыць, што грунт пад сялібай, г. зн. тая зямля, якая знаходзіцца пад будоўляй, агароды, сады, ці як у нас называюць, усадзебная зямля, ў падзел ня ўваходзіць, ня цэніцца і не нарэзваецца. Толькі ў выпадку, калі сяляне захочуць, каб перабудавацца з тых пляцаў, на якіх дагэтуль сядзелі, тады ўсадзебная зямля ўлічаецца ў абшар сцалкаваньня грунтаў. Але звычайна вёска астаецца на месцы, перабудоўвацца ня трэба, прымусу на гэта ніякага няма, бо закон пакідае для сялян права выбару спосабу сцалкаваньня грунтаў: з перабудовай, ці без гэтае перабудовы.* Іcьці на перабудову ўсім нявыгадна і дзеля гэтага сяляне павінны выбяраць другі спосаб ліквідацыі шнуроў: сцалкаваньне грунтаў без перабудовы, без пераносу сялібаў. Прыгатаваны землямерам праект сцалкаваньня грунтаў прадстаўляецца на агульнае сабраньне ўсіх удзельнікаў сцалкаваньня, якія склікаюцца на сход. На гэ-

Усе згуртаваньні беларускага студэнства ў Празе, за выняткам камуністаў, лучацца ў „*Аб'еднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў*“ (*А. Б. С. А.*), якая злучаець ня толькі беларускія студэнскія згуртаваньні на эміграцыі, а нат і Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні.

Дзеяльнасьць „А. Б. С. А.“ даволі плодная ў галіне вонкавае рэпрэзэнтацыі беларускае студенскае моладзі, вынікам чаго было 2 гады назад прыняцьце „А. Б. С. А.“ ў склад сталых сяброў *Міжнароднае Студэнскае Конфэдэрацыі*“ (*С. J. Е.*), на кожны гадавы зьезд якое высылае сваіх дэлегатаў. Такім чынам „А. Б. С. А.“ праз уваход у „С. J. Е.“—увайшло на стала ў агульнаю сям'ю студэнства ўсяго сьвету і ў гэтым заключаецца вялікая заслуга нашае студэнскае моладзі ў Чэхаславаччыне. Апрача пражскага студэнства многа яшчэ ёсьць беларускіх студэнтаў у іншых унівэрсытэцкіх цэнтрах Заходняе Эўропы, якія аднак, дзеля распыленнасьці, амаль ніякай дзейнасьці не праяўляюць.

Пасьля Прагі найбольшай беларускай студэнскай пляцоўкай зьяўляецца Вільня, дзе студэнты беларускае нацыянальнасьці згуртаваныя ў „*Беларускі Студэнскі Саюз*“. Важна зазначыць, што склад беларускага студэнства ў Вільні — амаль вылучна матурысты польскіх гімназіяў тады калі з беларускіх гімназіяў, з прычыны адсутнасьці ўрадовае матуры, налічаецца дагэтуль толькі некалькі чалавек. Апрача таго ёсьць некалькі студэнтаў з беларускай гімназіі ў Латвіі.

Дзеяльнасьць Бел. Студ. Саюзу да апошняга часу была не вялікая, што тлумачыцца рознымі перашкодамі, як тэхнічнага характару, так і складам самых сяброў Саюзу. У апошні якраз час усьцяж прыбываючыя новыя, маладыя, больш рухлівыя адзінкі зварухнулі працу ў арганізацыі. Дзеяльнасьць Бел. Студ. Саюзу пераважна культурна-асьветная: чытаюцца лекцыі, ладзяцца спэктаклі-вечарыны, выдаецца месячнік „Студэнская Думка“. У прошлым годзе Бел. Студ. Саюз, у мэтах цясьнейшага супрацоўніцтва з беларускімі студэнтамі ў Чэхаславаччыне, ўвайшоў сябром у склад „АБСА“, што зьяўляецца вельмі дадатнім крокам, які вядзе да цеснага сужыцьця ўсяго беларускага студэнства.

На перашкодзе шырэйшае і пладнейшае працы нашага студэнства стаіць матар'яльная беднасьць, што часта спыняе на поўдарозе розныя пачынаньні.

З прыкрасьцю прыходзіцца сьцьвердзіць, што беларускае грамадзянства, паміма заўсёдных

ты сход абавязкава прыбывае Зямяльны Камісар, і ў яго прысутнасьці землямер аб'яўляе, колькі дзесяцінаў мае кожны селянін, у чыём уладаньні знаходзіцца зямля, якія грунты ня ўваходзяць у абшар сцалкаваньня, выясьняе, якія дарогі будуць скасаваныя і якія правядуцца на нова, падае, на якую суму ацэнаваная зямля кожнага гаспадара і наагул прымае ўсе заявы ўчасьнікаў сцалкаваньня.

Тут трэба адзначыць вельмі важнае права, паводле якога малазямельныя гаспадаркі дапаўняюцца да сярэдняе вялічыны цераз прырэзку да абшару сцалкаваньня зямлі дворскае, або казённае, якая пераходзіць на ўласнасьць сялян. Малазямельныя павінны прасіць аб гэтым і іх просьба, згодна з законам аб пераходзе на хутары, мусіць быць здаволена. *А ў ніякім выпадку малазямельныя сяляне, якія маюць меней 5-ці дзесяцінаў, ня могуць падпісваць адмовы свае ад гэтага іх права на папаўненьне такіх гаспадарак.*

Выслухаўшы жаданьняў учасьнікаў сцалкаваньня, землямер прыгатаўляе аканчальны праект хутароў на пляне і на зямлі, абазначае дарогі ў хутарным абшары, дзеліць усю зямлю, лес, пасьцьбішча, і ў прысутнасьці Зямельнага Камісара адбываецца сход усіх учасьнікаў сцалкаваньня дзеля выбару хутароў. Трэба ведаць, што сяляне самі выбіраюць сабе хутар, гэта значыць, заяўляюць перад Камісарам і Хутарнаю Радаю, ў якім месцы на грунце хоча кожны мець свой хутар. Гэтая заява ўпісваецца ў пратакол. Пры такім выбары хутароў, Хутарная Рада і Зямельны Камісар прымаюць пад увагу патрэбы кожнага і *так даконваюць падзелу, каб больш-менш усе былі здаволены і ніхто ня быў скрыўджаны.* Перад выбарам хутароў сяляне павінны добра абзнаёміцца з цэнамі шацункаў зямлі, ведаць, дзе гэтыя цэны большыя, дзе меншыя, бо ў залежнасьці ад гэтых цэнаў выйдзе вялічыня атрымага хутара. Малазямельныя і мала забудаваныя гаспадаркі павінны кіравацца тым. каб атрымаць свой надзел далей ад вёскі, дзе зямля пацэняна танна, каб мець большы хутар.

Пратакол з надзелу хутароў адсылаецца ў Акружную Зямельную Управу і пасьля 14 дзён, у працягу якіх можна падаваць жалабы, зацьвярджаецца аканчальна. Пасьля гэтага наступае выдзел хутароў на грунце, з азначэньнэм граніцаў і перадача іх кожнаму ўчасьніку сцалкаваньня. Шнуры гэтым выдзяленьнем ліквідуюцца аканчальна.

Кошты сцалкаваньня г. зн. аплата землямера кладзецца на сялян. Але сучасны ўрад дзеля заахвочваньня сялян да пераходу на хутары вельмі часта звальняе цэлыя паветы ад гэтых коштаў. Аб такім звальненьні вёска можа прасіць урад, або прынамся атрымаць пазыку на аплату землямера. Пазыкі даюцца шесьцьгадовыя, апрацантаваныя ў 4% ў год. *С.*

## Земляная груша (Тапінамбур). (Helianthus tuberosus).

Цяпер, асабліва ў апошнія гады ўсюды адчуваецца востры недахоп корму для жывёлы. Дык вось адною з найлепшых расьлін, аб якой у нас многія ня ведаюць і ня чулі, і якая можа даць гаспадару найбольшую карысьць, як сваімі клубнямі так і сьцяблом. будзе, гэтак званая, земляная груша або топінамбур, (папольску — бульва). Земляная груша можа даць у сярэднім да 1000 пуд., а даволі часта і паўтары тысячы пудоў клубняў з гэктару, якія надта надаюцца для ежы, як для людзей, так і для жывёлы, асабліва важна для жывёлы: сьвіней, коняй, у сырым і вараным

---

зваротаў студэнства, ня хоча прыйсьці ім з матар'яльнаю дапамогаю, хоць і мае на гэта магчымасьць. Напр. на апошні зьезд „СЈЕ“ ў Парыжы, які на днях закончыўся, ад беларускага студэнства меліся выехаць два дэлегаты з Вільні і адзін з Прагі, але паміма просьбы апошніх, беларускае грамадзянства адмовіла помачы ў гэтай, так паважнай справе і з высылкай делегацыі нічога ня вышла.

Аднак паміма ўсіх нягодаў матар'яльнага характару, беларуская студэнская моладзь, як у Вільні, так і на чужыне перавышае старое грамадзянства *ідэолёгічна.*

Пасярод сварак і ўзаемнае партыйнае грызьні кіраўнічых кругоў беларускага грамадзянства, студэнская моладзь не паддалася гэтым згубным уплывам, а з поўнаю сьведамасьцю свайго заданьня супольна ў узаемнай згодзе гартуе свае сілы, каб у недалёкай будучыні выступіць на арэну грамадзкага жыцьця краю і зьліквідаваць сваркі і разьбіцьцё ў беларускім руху, якія ўнесьлі старэйшыя грамадзяне. Беларуская студэнская моладзь ня знае партыйнага раздрабленьня і ўзаемнае нязгоды, а стоючы на грунце панадпартыйным, стараецца ізаляваца ад забойчага ўплыву сучаснага раздрабленьня на групкі.

Апошняе яскрава сьцьвярджае выхад Беларускага Студэнскага Саюзу з абодвых істнуючых Беларускіх Нацыянальных Камітэтаў, які быў уматываваны ненармальным істнаваньнем двух нацыянальных камітэтаў з аднолькавымі заданьнямі.

Гэты факт сьведчыць об трэзвым сьветапаглядзе нашае моладзі і абяцае вялікую надзею на будучыню.

Апрача віленскага беларускага студэнства многа ёсьць беларускіх студэнтаў у іншых унівэрсытэтах Польшчы, якія нігдзе яшчэ не сарганізаваныя. Тут на асаблівую ўвагу заслугоўвае Варшава, дзе на багаслоўскім факультэце вучацца матурысты Духоўнай Праваслаўнай Сэмінарыі ў Вільні, якіх ёсьць там (у Варшаве) паводле неафіцыяльных даных каля 200 чалавек і амаль усе Беларусы. Пажадана было-б, каб беларускія студэнты ў Варшаве зарганізаваліся ў сваю беларускую 'арганізацыю з пачаткам наступаючага акадэмічнага году.

Канчаючы свой агляд, прыходзіцца сьцьвердзіць, што беларускае студэнства, як моладзь здаровага сьветапагляду на грамадзкія справы свайго народу, якой ня зьбілі з агульна народнага шляху розныя забойчыя вонкавыя ўплывы, падае вялікую надзею ў недалёкай будучыне, калі кіраўнічую ролю адраджэньня возьме ў свае ўласныя рукі. *Рт.*

стане; апроч таго земляная груша дае за лета 600-800 пуд., а нярэдка больш тысячы, націны і лісьцьця, якія надта ахвотна ядуцца авечкамі. Лісьцьцё і націну даюць у сырым стане, або падсушаным, а часта квасяць ў ямах без доступу паветра.

Доказам таго, што земляная груша, а роўна і яе цяўнік, ня ўступае бульбе, па складу пажыўных і хімічных складнікаў, а нават цяўнік лепшы ад бульбянога, можа служыць ніжэй паданая таблічка працэнтнага зьместу пажыўных часткаў той і другой расьліны:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Бульба клубні . . . . | 1,6 | 0,08 | 20,7 | 0,4 | 22,6 |
| Земляная груша клубні | 1,4 | 0,12 | 15,8 | 0,6 | 17,8 |
| Націна { бульбы (ліп.-жнів.) | 3,8 | 0,6 | 23,2 | 10,3 | 33,5 |
| Націна { грушы „ „ | 8,6 | 1,7 | 32,4 | 8,8 | 49,5 |
| Націна { бульбы (кастрычн.) | 1,0 | 0,3 | 6,0 | 2,2 | 8,8 |
| Націна { грушы „ | 2,0 | 0,6 | 13,2 | 2,2 | 17,7 |

Земляная груша, або тапінамбур — расьліна з віду вельмі падобная да звычайнага сланэчніка і мае надта высокае, часта да $1^1/_2$-2 мэтраў сьцябло з вялікімі лістамі і жоўтымі кветкамі. Розьніцца ад сланечнікаў тым, што сьцябло яе ня гэткае тоўстае і дзеравяннае, а заўсёды дае многа пасынкаў і на карэньнях сваіх нясе клубні, як бульбіны, белага, жоўтага і чырвонага колеру. Дзеля гэтых клубней і націны яна даволі многа і разводзіцца. Расьліна гэтая надта неразборчывая: аднолькава добра расьце і ўдаецца, як на сырых так і сухіх грунтах, абы зямля была больш-менш сыпкая (рыхлая); нават добра расьце на касагорах і няўжытках. Земляная груша не баіцца ні засух, ні марозаў і садзіць яе можна вясною і восяньню. Вельмі хутка размнажаецца сама сабою і раз пасаджаная на грунце, можа аставацца на адным і тым-жа мейсцы гадоў чатыры і больш, пакуль клубні не пачнуць драбнець: тады трэба садзіць яе на сьвежым мейсцы. Пры карыстаньні расьлінаю ня выкопываюць яе ў восень цалком з грунту, а з пад кожнага куста бяруць па некалькі найбольшых клубняў, пакідаючы на зіму драбнейшыя, націна-ж ідзе ў корм жывёле і з невялікага кавалачка грунту можна пракарміць усю зіму дзесятак, другі авец. Часта ў бязсьнежную зіму, або вясною дастаюць клубні і вараць для сябе, або жывёлы, бо яны не баяцца марозаў, толькі не даюцца клубні пераховываць у капцах або на аткрытым паветру доўга, бо зачынаюць моршчыцца і сохнуць.

Разводзяць земляныя грушы гэтакім чынам: дастаюць вясною або восеньню клубней і садзяць гэтакім парадкам, як звычайную бульбу, толькі трэба праводзіць, гэтак на $1$-$1^1/_4$ мэтра адзін ад другога, радкі і ў радках садзіць ня бліжэй 60 цэнтым. клубень ад клубня. Ужо ў першы год націна вырасьце да 1-2 мэтр. і створацца клубні. Што год яны больш разрастаюцца і даюць большы ўраджай. На другі год трэба пачаць угнаеньне поля, дзе пасаджана земляная груша, раскладаючы перапрэўшы гной паміж расьлінамі. Пакуль маладая расьліны возьмуцца добра ў рост, іх трэба абсыпаць гэтак, як і бульбу. На добрых землях яна дае найбольшые ўраджаі, так, што хто завядзе гэтую расьліну хаця-бы на абмежках — ня будзе шкадаваць. Дастаць земляную грушу можна ў Варшаве і праз усе сельска-гаспадарчыя склады па цане 35—50 злот. за сто кілёгр.

*Я. Х.*

# Увагі аб гадоўлі сьвіней.

Сьвіньні і парасяты, гэта вельмі важны дабытак гаспадара. Плодная сьвіньня-мацёра больш часамі прыносіць карысьці, чымся карова, калі парасяты, добра, як кажуць, удаюцца. Але каб парасяты добра ўдаваліся ня трэба нічога больш, як толькі дагляду, стараннасьці і трошкі веды.

Парасяты родзяцца па два разы да году, дзеля гэтага зьяўляюцца яны добрай і пэўнай крыніцай даходу, заўсёды можна іх добра прадаць.

Найвялікшым грахом можа ў гадоўлі сьвіней зьяўляецца пагляд сялян, што сьвіньня якраз не патрабуе парадку і чыстаты ў хляве. Хлявы звычайна бываюць цёмныя, цесныя, забруджаныя сырыя; зімою ў іх сьцюдзенна, у леце горача і заўсёды мокра.

У гэткім хляве сьвіньні ўдавацца ня будуць, а прынамся растуць блага і часта хварэюць. Сьвіньня, як і кожная дамовая жывёліна, лепш і здаравей гадуецца ў добрым, сухім легавішчы, калі-ж яе ўлетку бачым часамі, як „купаецца“ ў балоце, гэта зусім ня доказ, што яна мае асаблівае замілаваньне да бруду, балота, а яна ў гэткі спосаб шукае ратунку ад сьпякоты і шукае халадку.

Каб сьвіньні з карысьцяй гадаваліся, трэба перадусім мець добры, цёплы хлеў у зімку. Найлепшымі былі-б хлявы мураваныя, але аб гэткіх хлявох гаварыць ня прыходзіцца, бо яшчэ хаты ў нас шмат чаго вымагаюць. Добра будзе, калі сьвінушнік будзе знаходзіцца ў тым самым будынку, дзе і хлеў для кароў, між бэлькамі добра абторканы мохам і аблепляны глінай, бо тады ён забясьпечыць сьвіней ад зімовых халадоў. Чыстае і сухое легавішча добра прычыняецца да здароўя, як мацёры, так і сьвіней, якіх гадуем на сала.

Найлепш рабіць яго так: на падлозе гліняной ці з дошчак — трэба зрабіць трошкі вышэй над ёй з дошчак легавішча, праз палову хляўка, абапёртае на дзераўляных ліштвах у $3^1/_2$ цалі грубых. Ліштвы трэба моцна прыбіць да падлогі, каб парасяты не маглі ўлазіць падыспод.

На гэткае легавішча суха насьцілаем саломы і на ім зімой ёсьць шмат цяплей чымся на падлозе, а сьвіня, міма думкі аб тым, што яна любіць непарадак, заўсёды гэтае мейсца выбярэ на легавішча. Мацёра павінна мець заўсёды асобную загарадку ў хляўку.

Цяперака аб адпаведным гатунку сьвіней:

Вядомым ёсьць, што ня кожная раса сьвіней аднолькава хутка вырастае і ізноў, што ня кожную расу можна з аднолькавым пасьпехам разводзіць у рожных гаспадарках. Гаспадар, які мае шмат зямлі, шмат корму, адпаведны лік грошаў і адпаведны хлеў — можа гадаваць сьвіней, якія хутка вырастаюць. Пры ўмовах-жа, дзе ўсяго вышэй ўспомненага бракуе, як гэта ёсьць у нас, сьвіня з добрае расы, ня толькі ня прынясе карысьці, а часта-густа проста прыносіць шкоду.

Вось-жа тым, якія жывуць каля вялікшых местаў, хто маець сувязь з купцамі-разьнікамі, а гаспадарку вядзець інтэнсыўную, дзеля таго, што шмат затрачваецца працы, уменьня і грошай варта разводзіць сьвіней расовых, з мэтай атрыманьня бэконаў.

Зноўжа-ж, маючы добрую пашу, галоўным чынам з канюшыны, найлепш аплачваецца гадоўля сьвіней на мяса. Урэшце можна гадаваць сьвіней на адтрыманьне найбольш добрага, гру-

бага сала, і на гэта ў нас зьвяртаецца найбольш увагі пры гадоўлі сьвіней. Гадуюць ў нас пераважна мяйсцовых, кароткавухіх сьвіней, бруднае масьці з чорнымі, ці рудымі плямамі, з доўгім лычам. Гэтая парода лёгка пераносіць холад і голад, умее часамі сама сабе знайсьці ежу і лёгка выгадоўваецца нават да 15 і больш пудоў. Даець гэтая парода сьвіней добрае, тоўстае сала, смачнае мяса і шынку.

Другая парода, таксама добрая — гэта сьвіня з кароткай, шырокай галавой, жоўтаватае масьці. Яна так-сама лёгка знаходзіць сабе ежу і добра гадуецца (да 11 пудоў).

Абедзьве гэтыя мясцовыя пароды належаць да позна вырастаючых сьвіней, якіх адкормліваць можна толькі па паўтара году, і толькі тады, не раней, можна атрымаць ад гэтых сьвіней шмат сала і мяса. Добра ўдаюцца дзеля гадоўлі на мяса сьвіні мяшаныя, нашыя мясцовыя — клапаўхія, з ангельскімі белымі г. зв. ёктырамі; яны лепш пераносяць нашыя халады, чымся ангельскія чыстыя, але хутчэй растуць і лепш адпасваюцца, чымся сьвіньні мяйсцовыя і даюць яны мяса далікатнейшае і лепшае сала, а дзеля гэтага заўсёды на іх можна лягчэй знайсьці купца.

Сала ў нас заўсёды бракуе, дык дзеля гэтага няма чаго баяцца, што ня знойдзецца купцоў на сваё сала, а вядома-ж—гадоўля сьвіней на сала заўсёды дасьць даход, трэба толькі парабіць пэўныя зьмены ў гадоўлі сьвіней, зьменшыць тыя недахопы, якія мы заўважваем, абараніцца ад тых няшчасьцяў, якія часамі трапляюцца ў гадоўлі сьвіньні і перашкаджаюць у добрым разьвіцьці сьвінарства ў нашых гаспадарках.

Вось-жа перш на перш неабходна прышчапляць сьвіньням 2 разы ў год ваксыну (гэтак, як дзецям воспу), гэтае прышчапленьне асьцеражэ нашых сьвіней ад рожных хваробаў, якія часамі нішчаць добрую частку нашага даробку і адбіраюць у гаспадара ахвоту да далейшае працы ў гэтым кірунку. Гадуе, працуе, уложыць шмат грошаў, прыйдзе хвароба, і ўсё зьнішчыць — ня хоча тады другі раз брацца гаспадар за няпэўны інтэрас. А недапусьціць да гэтага вельмі-ж лёгка: ёсьць у нас вэтэрынары, амаль што ў кожнай воласьці і прышчэпка ваксыны ня будзе каштаваць ізноў гэтак дорага, асабліва калі некалькі гаспадароў адначасна ў адзін дзень будуць шчапіць сваіх сьвіней.

У некаторых іншых дзяржавах шчапленьне ваксыны ёсьць абавязковым, а у нашых абставінах трэба ведаць, што ў кожным выпадку, шчапленьне сьвіней гэта ёсьць проста выгада для самых-жа гаспадароў. За межамі ўжываецца часамі і другі спосаб — страхаваньне сьвіней ад хваробаў, але ў нас гэтая справа яшчэ перадчасна, мы да яе яшчэ не дарасьлі.

Другое, аб чым трэба было-б клапаціцца—гэта дадаваць нашым сьвіням патроху крыві ангельскіх скорасьпелых сьвіней, г. зн. мяшаць праз дапушчэньне да нашае мацёры ангельскага кнура, што зноў-жа ня ёсьць ужо гэткім немагчымым, бо сельска-гаспапарчыя таварыствы стараюцца памагчы гаспадарам у гэтым, памагаючы купляць гэтыя кнуры, і гаспадар, які дбаець аб сваю гаспадарку, і добра абходзіцца з сьвіньнямі, можа заўсёды завесьці гэткага кнура. Трэба гэта рабіць дзеля таго, каб нашыя сьвіньні выраслі трошкі хутчэй і тым самым, каб мы менш грошы выдавалі на іх гадоўлю. Вось-жа найлепш даць у гаспадарцы адзін раз кнура ангельскага, а далей з дзяцьмі яго па мажлівасьці абходзіцца з сваімі, мяйсцовымі кнурамі.

Найгалаўнейшай справай, на якую трэба зьвярнуць увагу, — гэта гадоўля парасят, бо ад добрае гадоўлі іх шмат залежыць.

Але перад тым, як пачаць гаварыць аб гадоўлі парасятаў, успомнім аб мацёры.

Ад мацёры вымагаем перадусім шмат парасят, якіх яна мусіць усіх без вынятку добра выхаваць, і добрай малочнасьці.

Яна павінна мець 12—14 цыцак, каб кожнае парасё магло ссаць з асобнае сваё, добрае цыцкі.

Ня ў тым справа, каб мацёра мела 15 парасят, але з іх некалькі слабых, найлепш няхай яна маець 10-12, але ўсе аднальковa моцныя.

Пры добрым апарасеньні, 10-12 парасятаў па 4-5 тыднях павінны важыць 45-50 кілёгр. (каля 3 пудоў) і больш. Добрая, высокая малочнасьць мацёры ёсьць хіба найважнейшай яе залетай і варункам, таму што парасяты ў працягу першых трох тыдняў свайго жыцьця, у якіх кормяцца выключна малаком маткі, павінны прыбываць на вазе 150 грамаў ($^3/_5$ фунта) у дзень, гэта значыць калі маці маець іх 10, дык мусіць вырабіць 1500 грамаў жывой вагі. Гэтак высокая прадукцыя малака ў мацёры магчыма толькі пры добрым кармленьні. Але часамі і пры найлепшым кармленьні мацёра ня будзе мець досыць малака, калі з самой натуры ня маець малочнай уласьцівасьці.

Аб малочнасьці каровы заўсёды можам лёгка пераканацца, бачучы, колькі яна даець малака, аб малочнасьці-ж мацёры можам пpaканацца толькі з таго, як растуць парасяты: калі яны растуць хутка і ўсе аднальковa г. зн., што малака ў мацёры хапае, а яна да таго рэгулярна плодная, маець шмат добрых парасятаў і яны добра кормяцца, хутка растуць, даходзядь да высокае вагі — значыцца мацёра ёсьць высока малочнай, добрай, пры адпаведным кармленьні, разумеецца.

Пароснасьць у сьвіньні трываець 115—125 дзён.

Першай адзнакай таго, што сьвіньня зайшла ў цяжарнасьць, ёсьць яе спакойнасьць. Яна ўжо ня будзе ірваціца да кнура, што ў непароснай бываець кожныя 20 дзён. У другой палове пароснасьці, відаць ўжо круглыя формы, пэўная ацяжалеласьць і збольшаны апэтыт. Пароснаю мацёру трэба старанна даглядаць, асабліва ў другой палове цяжарнасьці, нельга шмат ганяць яе, высьцерагацца гвалтоўных рухаў, ня можна яе пужаць, цкаваць сабакамі і г. д., бо ў яе можа быць перадчаснае апарасеньне.

Трэба шмат трымаць яе на сьвежым паветры; найлепш гадуюцца пароcныя мацёры на пасьвіску, дзе маюць сьвежую, сачыстую траву і свабодны, ўмяркаваны рух.

Перадчаснае апарасеньне можа здарыцца так сама ад неадпаведнага корму, напрыклад сьвежае жыта, заражанае спарышом, можа прычыніцца да перадчаснага апарасеньня. Перадчаснае апарасеньне можа быць выклікана праз пэўныя бактэрыі. Змаганьне з гэтай хваробай ёсьць вельмі труднае і палягаець на тым, што трэба заражаную мацёру адасобніць і зрабіць дэзынфэкцыю.

Кармленьне мацёры павінна быць добрым, але ўмяркаваным. Занадта добрае кармленьне выклікае атлушчэньне мацёры, а атлусьцеўшая мацёра родзіць звычайна слабенькіх парасят і са-

ма робіцца цяжкой, што можа быць небясьпечным пры другой пароснасьці. Асабліва асьцярожна трэба карміць старыя мацёры, бо маладыя мацёркі, якія першы раз яшчэ паросяцца, мусяць быць больш кормленымі, а гэта дзеля таго, што яны яшчэ растуць і патрабуюць больш корму.

Падчас першае паловы пароснасьці кармленьне старых мацёраў павінна быць скромнае і не каштоўнае, без дадаткаў корму атлушчаючага. Зусім добрым кормам будзе плява, вотрубы, запараная сечка з канюшыны, прыкрашаная запаранай бульбай. Зусім дастатнай будзе так-жа добрае пасьбішча, або маладая зеляніна.

Але ўжо ў другой палавіне пароснасьці, гэта значыць ў пачатку трэцяга месяца, трэба дадаваць пашы больш карыснай (атрубы, мука) і зьбіранае малако, калі яно ў гаспадарцы ёсьць.

Корм мусіць быць лёгка страўны і разнавідны. Напрыклад: вотрубы, ячменныя абдзёркі, а так-сама морква, параная бульба, буракі, летам зеляніна.

У апошнім часе пароснасьці трэба абавязкова дадаваць да корму мінэральныя солі г. зн. фосфорану вапнянага, варынай солі, таму, што гэтыя солі патрэбны на косьці парасятам. Наагул у выхове мацёраў, трэба стала дбаць аб тое, каб праз корм мелі солі мінэральныя доступ да арганізму, дзеля нармальнага разросту прыплоду. Мацёры, якім забракне мінэральнага корму (вапны, фосфару), пародзяць слабых парасятаў, а самых арганізм некарысна схудзее. Вады дзеля піцьця паросным сьвіньням трэба даваць пад дастаткам. Сьвіньні наагул вымагаюць, каб ім вада дзеля піцьця была пададзена асобна, а асабліва паросныя мацёры вымагаюць вады ў значнай колькасьці і часта любяць яе піць.

(*Працяг будзе*).

---

## Аб пладазьмене.

Што такое пладазьмен? Кожны гаспадар павінен ведаць тое, што каб расьліны добра ўрадзжалі, яны мусяць мець адпаведны корм у зямлі. На навінах пасьля вырубанага лесу, дае звыкла жыта вельмі добры ураджай праз некалькі гадоў падрад, бо карані жыта знаходзяць вялікі запас корму ў верхнім слою зямлі. Праз некалькі гадоў навіна перастае радзіць жыта, але яшчэ ўродзіць грэчку. На палёх, здаўна ўробляных і ўгнойваных гноем, жыта пасьля канюшыны бывае лепшае, чымся пасьля жыта, або жыта пасьля аўсу; авёс пасьля бульбы бывае лепшы чымся авёс пасьля жыта. На палёх пустых, на якіх ніякае збожжа ня будзе радзіць, бывае добры лубін.

Дзеецца гэта так таму, што хаця ўсе гаспадарскія расьліны патрабуюць таго самага корму, аднак не ў аднолькавай колькасьці. Пшаніца, жыта, ячмень, авёс, або гэтак званыя калосныя расьліны найбольш патрабуюць корму фосфаравага і азотавага. Калі-ж сеяць жыта пасьля жыта, або жыта пасьля аўса, дык гэтаму другому жыту можа нехапіць фосфаровага і азотавага корму, бо яго першае жыта або авёс выбралі — дзеля гэтага другое жыта будзе менш ураджайнае чымся першае. Апрача таго, расьліны аднаго гатунку запушчаюць карэньні аднолькава глыбока ў зямлю і шукаюць корму ў адных і тыхжа самых мясцох. Канюшына, люцэрна, лубін запушчаюць карэньні глыбока ў зямлю і шукаюць корму ў іншых мясцох, чымся жыта, якое плыцей запушчае карэньні, і дзеля гэтага жыта пасьля канюшыны знаходзіць больш корму ў зямлі, чымся жыта пасьля аўса. Акопныя расьліны (бульба, буракі, морква і т. д.), патрабуюць шмат корму паташовага і азотавага. Дзеля таго, што азотавага корму ў ральлі рэдка ўгнойванай ёсьць вельмі мала і ў полі, ня вельмі часта гноеным, акопныя расьліны родзяць слаба, а без гною па сабе саджаныя дадуць гэтак малы ўраджай, што нават работа не аплаціцца.

Лубін і сэрадэля ўдаюцца на пустой, ялавой зямлі, таму што яны запушчаюць свае карэньні глыбей чымся збожжа і цягнуць корм з такіх мейсцаў, з якіх збожжа ня можа. Апрача таго, лубін, сэрадэля, канюшына, люцэрна, гарох і выка, г. зв. мятлікавыя расьліны бяруць азотавы корм з паветра. Частку забранага з паветра азоту пакідаюць яны з карэньнямі ў зямлі і ў гэткі спосаб узбагачваюць ральлю ў найдаражэйшы корм—азот. Дзеля таго, пасьля гэтых расьлінаў збожжа лепш родзіць, чымся пасьля іншых. Лубін і сэрадэля, сеяныя па сабе, праз некалькі гадоў знаходзяць сабе корм у зямлі, іншыя-ж мятлікавыя расьліны гэткае ўласьцівасьці ня маюць і іх ня можна сеяць па сабе часьцей, чымся праз 5—6 гадоў.

Адсюль вынікае для гаспадароў правіла, што хочучы мець як найбольшы пажытак з ральлі, трэба тады зьмяняць г. знача засяваць па сабе расьліны на пераменку — раз калосныя, потым мятлікавыя, потым бульбу — і гэта называем *пладазьменам.*

Каб лепш было зразумелым як завясьці ў сябе пладазьмен, возьмем прыклад: мае гаспадар некалькі маргоў зямлі, дзеліць грунт свой на 6 палёў і першы год засявае на кожным з шасьцёх кавалкаў наступныя расьліны—на першым кавалку ярыну, на другім бульбу на гнаі, на трэцім канюшыну, на чацьвёртым гарох, выку, сарадэлю, лубін, на пятым азіміну, на шостым жыта.

Сабраўшы ў восені пляды, на другі год засявае, па ярыне—на тым-жа першым кавалку канюшыну—белую і чырвоную, на другім кавалку пасьля бульбы—ярыну, на трэцім пасьля канюшыны — азіміну, на чацьвёртым пасьля гароху, выкі, сэрадэлі, лубіну—жыта; на пятым пасьля азіміны гарох, выка, сэрадэля лубін; на шостым—пасьля жыта — бульба на гнаі.

На трэці год — на першым кавалку сее гаспадар—пасьля пасеянай у першым годзе ярыны, а ў другім канюшыны — азіміну, на другім кавалку, пасьля бульбы ў першым годзе і ярыны ў другім годзе—канюшыну; на трэцім кавалку—пасьля ў першы год засеянай канюшыны, а ў другім годзе азіміны,—гарох, выку, сэрадэлю, лубін. на чацьвёртым кавалку, пасьля выкі, сэрадэлі, гароху, лубіну ў першым годзе і жыта ў другім,—бульба; на пятым полі—пасьля азіміны ў першым годзе, гароху, выкі, сэрадэлі і лубіну ў другім—жыта; і ўрэшце на шостым кавалку—пасьля жыта ў першым годзе і бульбы ў другім—сее ярыну ў трэцім годзе—гэтак пастулае і на чацьвёрты год—на першым кавалку пасьля прашлагодняй азіміны сее гарох, выку, сэрадэлю, лубін, на другім кавалку, пасьля канюшыны—азіміну, на трэцім—пасьля гароху, выкі, сэрадэлі, лубіну, жыта; на чацьвёрты, пасьля прошлагодняе бульбы на гнаю—ярыну, на пятым—пасьля жыта буль-

бу—на гнаю і на шостым пасьля прошлагодняй ярыны—канюшыну.

У пятым годзе—на першым кавалку, пасьля гароху, выкі, сэрадэлі, лубіну—жыта; у шостым годзе—пасьля іх—бульба; на другім кавалку—у пятым годзе — гарох, выка, сэрадэля, лубін; у шостым—жыта; на трэцім кавалку — у пятым годзе — бульба на гнаю; у шостым — ярына; на чацьвёртым кавалку—у пятым годзе—канюшына; у шостым—азіміна; на пятым кавалку — у пятым годзе—ярына, у шостым—канюшына; і на шостым кавалку ў пятым годзе—азіміна, а ў шостым — гарох, выку, сэрадэлю і лубін, гэтак мае праз шэсьць гадоў закончаны пладазьмен і можа пачынаць ізноў, як было сказана, з першага году.

Каб не ламаць сабе галавы кожны год, дзе, што на якім кавалку сеяць, рысуе сабе гаспадар на паперы сваё поле, дзеліць яго на 6 кавалкаў, адзначаючы іх кожны нумаркамі і робіць сабе для ўласнай памяці і на ўсялякі выпадак, каб жонка і дзеці ведалі, як палі абсяваць, наступны плян:

| № поля | год 1928 | год 1929 | год 1930 | год 1931 | год 1932 | год 1933 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| I. | ярына | канюшына белая і чырвоная | азіміна | гарох выка сэрадэля лубін | жыта | бульба + гной |
| II. | бульба + гной | ярына | канюшына | азіміна | гарох выка сэрадэля лубін | жыта |
| III. | канюшына | азіміна | гарох выка сэрадэля лубін | жыта | бульба + гной | ярына |
| IV. | гарох выка сэрадэля лубін | жыта | бульба + гной | ярына | канюшына | азіміна |
| V. | азіміна | гарох выка сэрадэля лубін | жыта | бульба + гной | ярына | канюшына |
| VI. | жыта | бульба + гной | ярына | канюшына | азіміна | гарох выка сэрадэля лубін |

і мае гаспадар спакойную галаву, бо ведае ня толькі тое, гдзе ўвосені жыта пасеяць, але і тое, што праз некалькі гадоў на кожным кавалку сеяць яму трэба будзе.

Аб карысьцях і як улажыць добры пладазьмен, пагаворым у наступным нумары.



# ПЧАЛЯРСТВА.

## Медагонка.

Гэтая прылада зьяўляецца неабходнай для кожнага больш-менш паступовага пчаляра. Без медагонкі нічога ня можна зрабіць ў пчалярстве, дзеля таго, што ў часе выбіраньня мёду мы змушаны будзем абходзіцца з плястрамі так, як калісьці абходзіліся нашыя папярэднікі на сваіх прымітыўных пасеках, г. зн. выдзіралі, ці вырэзывалі мёд і таўклі яго разам з вузою, ставячы яго потым ў пэўнае мейсца, дзе-б ён мог састоіцца і аддзяліцца ад воску. Гэтакім спосабам мы ня толькі ня ўводзілі-б ў пчалярства поступу, а наадварот, пры сяньняшнім поступе ўва ўсіх гаспадарскіх галінах, вярталіся-б назад.

Пагледзім-жа, што гэта за такая прылада, без якой ня можна абыйсьціся ў пчалярстве і ацэніма яе вагу для паступовага вядзеньня пасекі.

Прылада гэтая ня ёсьць ужо такая мудрая. Складаецца яна з цыліндра, зробленага з цынковае бляхі, ўнутры добра вылуджанага, альбо выбеленага пакоснаю белаю хварбаю. Цыліндар гэты можа мець у дыамэтры давольную колькасьць цэнтымэтраў, залежна ад таго, да якіх вульлёў, а асабліва рамак, мы яго хочам ужываць. Часамі здараецца, што пчаляр на сваёй пасецы маець вульлі рожных сыстэмаў. З гэтага вынікала-б, што ён павінен мець і некалькі гатункаў большых і меншых цэнтрафугаў, ці іначай медагонкаў.

У практыцы так ня ёсьць. Пчаляру зусім хопіць аднае медагонкі, дапасаванае больш-менш да найбольшых рамак, прыкладам да рамак вульля Дадана; усё-ж меншыя рамкі вульлёў Лявіцкага, Цясельскага і г. д. свабодна дойдуць да большае медагонкі, з якіх свабодна ёю можна выкручываць мёд.

Сэкрэт унутраннае будовы медагонкі такі: у гатовы, ужо зробляны цыліндар, у яго нутро, ўстаўляецца станок, звычайна зроблены на чатыры рамкі, у гэтакі спосаб: бярэцца па дзьве перакладзіны на крыж зьверху і зьнізу. Адступ паміж ніжнім і верхнім крыжыкам павінен быць у вялічыню найдаўжэйшае рамкі. Крыжы гэтыя, зробляныя з жалеза, альбо з моцнага дзерава насаджваюцца сваею сярэдзінаю на верацяно, разумеецца жалезнае, канцы верхняга і ніжняга крыжыкаў злучаюцца дзеравяннымі моцнымі стаўбцамі. Як усе чатыры канцы крыжыкаў злучаны гэтымі стаўбцамі, тады кругом абцягіваем іх драцяною сеткаю, якая павінна бараніць вузў ў рамках, ад палому ў часе выкручваньня мёду. Зрабіўшы гэта ўсё, атрымаем квадрат, пасярэдзіне прабіты жалезным верацяном, якое з аднаго ніжняга канца выступаець шпянём, крыху па-за клетку нашага квадрату; шпень гэты служыць дзеля таго, каб наш квадрат умацаваць на дне цыліндра, дзе-б ён свабодна пакручываўся. З гэтаю мэтаю на дне нашага цыліндру, у самым ягоцэнтры, робім маленькі, усечаны конус, пасярэдзіне якога павінен быць далок, ямачка, куды-б заходзіў шпень нашага квадрату і дзе-б гэты квадрат мог свабодна пакручвацца. Верхні шпень квадрату праходзіць цераз сярэдзіну дзеравяннае перагародкі на версе цыліндра і на гэты шпень накладаецца касая, конусавая трыба (шасьцерня), якая злучаецца з такою-ж самаю

шасьцернёю, палажанаю і ўмацаванаю на версе нашага цыліндра. Гэтая ляжачая шасьцерня пераходзіць у корбу, якая знаходзіцца на жалезным пруце, другі канец якога заходзіць ў ляжачую шасьцерню.

Круцячы за корбу прыводзім ў рух пры помачы перадачы, наш квадрат, які знаходзіцца ўнутры цыліндру. Па бакох квадрату, за яго драцяныя сеткі, ўстаўляем рамкі, па аднэй пры кожным боку, разам чатыры. Моцна круцячы за корбу, круціцца моцна і квадрат з рамкамі і сілаю ветру, які ідзець з пад верацяна (у фізіцы вецер гэты называецца сілаю ад асяродка), выцягваецца мёд з чарачак. Пакруціўшы больш-менш з мінуту, выкруцім і асушым ўвесь мёд з чарачак з вонкавага боку рамак. Потым перастаем круціць і пераварочваем рамкі на другі бок і ізноў круцім. У гэты спосаб праз дзьве больш менш мінуты выкруцім мёд з чатырох рамак. Зрабіўшы гэта бяром новыя чатыры рамкі і гэтак робім аж да канца. Трэба пры гэтым адзначыць, што каб медагонка добра выцягівала мёд, дык рагі нашага квадрату павінны мець адступ ад сьценак цыліндру ня больш, як на адну цалю. Гэткая прыблізна ёсьць будова мёдагонкі фабрычнае, бо прыводзіцца яна ў рух пры помачы трыбаў (шасьцерняў), а іх робіць толькі фабрыка. Каб зрабіць медагонку сваім дамовым спосабам, дык на гэта ня трэба надта вялікае навукі. Заместа трыбаў (шасьцерняў) бярэм два дзеравянныя колцы, з якіх адно ўмацоўваем на краю медагонкі, другое-ж, меншае ад першага, умацоўваем на вярсе верацяна, якое ідзець цераз сярэдзіну станка-квадрату для рамак. У колца, што на краі цыліндру, усаджваем жалезную корбу зьверху і злучаем гэтае колца з тым, што на сярэдзіне пры помачы сурамятнага (скуранога) пасу і ўся машына гатова.

Цыліндар і станок для рамак робяцца спосабам, які я апісаў вышэй. Зрабіўшы апошнім спосабам медагонку, мы не наражаемся на лішнюю выдачу грошаў на трыбы (шасьцерні), а функцыянаваць (працаваць) яна будзе зусім здавальняюча. Пры ўсім гэтым ня трэба забывацца, што на дне цыліндру з боку павінен быць кран для сьцёку мёду ў якую небудзь падстаўленую пасудзіну.

Што да карысьці, якую даець медагонка пчаляру, дык ня думаючы трэба сказаць, што карысьць гэтая надта вялікая з наступных прычынаў: пры помачы медагонкі рамкі з мёдам можна так высушыць, г. ё. выцягнуць мёд, што сама вуза ані чуць не сапсуецца і будзе зноў прыдатная да ўстаўленьня ў вулей, каб яе пчолы ізноў напоўнілі мёдам. Практыкуючы гэты спосаб выцяганьня мёду пры помачы медагонкі, мы надта шмат часу ашчаджаем пчолам пад час багатага медабраньня, які імення час пчолы ўжываюць на зборку мёду, і гэтым шмат павялічваюць карысьць для пчаляра. Калі прыняць пад увагу тое, што для зрабленьня аднаго фунта воску, пчолы ўжываюць столькі часу, колькі-б патрэбавалася для назьбіраньня двадцаці фунтаў мёду, дык можна зразумець, што найляпей падчас багатага медабраньня даваць пчолам пустыя рамкі з вузаю, дзе-б яны маглі складаць мёд ня трацячы часу на рабленьне патрэбнага ім воску, а зрабіць гэта ўсё можна толькі пры помачы медагонкі.

Па другое, бываець час ў гарачае лета, калі ўсе рамкі запоўнены мёдам і дзеля гэтага матцы няма дзе класьці яечак для вываду патомства, а патомства ў такі час ёсьць неабходным для пчол, бо інакш паменшыцца сям'я і аслабеюць пчолы. Выкручваючы мёд мы аслабаняем рамкі і даем магчымасьць матцы засяваць чарвою рамкі і гэтым самым пабуджаем пчолак да большай дзейльнасьці.

Пры выкручваньні мёду трэба памятаць, што часамі рамкі з мёдам бываюць запячатаныя, а дзеля гэтага трэба іх перад самым ўстаўленьнем ў мёдагонку адпячатаць адумысным, дзела гэтае мэты зробленым, пчалярскім нажом. Нож гэты павінен быць моцна навостраны, каб не ламаў каморак і гэтым ня псуў вузу ў рамках. Ад часу да часу ён павінен быць ачышчаны ад налеплянага на ём мёду і воску. Найляпей ён ачышчаецца, калі яго ўлажыць у гарачую ваду.

Адпячатваецца рамка ў такі спосаб, што бярэцца рамка, запячатаная, разумеецца, і нажом зрэзваецца з яе тоненька самая пячатка, а потым рамка ўстаўляецца ў цэнтрыфугу і набраўшы гэтакім спосабам чатыры рамкі выкручваецца з іх мёд. *Пчаляр.*

---

# З жыцьця Наваградчыны.

## Гадаўляны паказ у Дэрэўне.

2 верасьня ў вёсцы Дэрэўне адбыўся гадаўляны паказ. Прыведзена было на паказ 29 штук быдла выключна дробных уласьнікаў. Наагул нагароджана 13 штук.

## Экспанаты на Віленскую Выстаўку.

4 верасьня выслана з Назаградзкага павету 2 вагоны рагатага быдла на Віленскуш Выстаўку. Выслана быдла 2 рас: чырвона-польскую і нізінную чорна-белую.

## Землясробская экскурсія ў Вільню.

5 верасьня выехала са Слоніма экскурсія, сарганізаваная праз Слонімскі Соймік на Віленскую Выстаўку ў ліку 50 асоб. У экскурсіі бяруць ўдзел земляробы пасобных валасьцяў Слонімскага павету.

## Лік вучыцяляў у Стаўпецкім пав.

У гэтым годзе Віленская Куратория прыдзяліла да Стоўпцаў 4 новыя вучыцельскія сілы. Такім чынам лік вучыцялёў у Стаўпецкім павеце выносіць 191 асоб.

## Новая спажывецкая коопэратыва.

У Новым-Сьвержані заложана спажывецкая коопэратыва пад назовам „Надзея".

## Адважны солтыс.

Стаўпецкі Стараста вызначыў 30 зл. нагароды солтысу вёскі Рцэды, Янцы Жывіцкаму за прытрыманьне пару асобаў, якія хацелі перайсьці польска-савецкую граніцу. Гэты-ж сам солтыс за падобны паступак атрымаў 50 зл. нагароды.

### Пажар у в. Лубелевічах.

Дзякуючы неастарожнасьці запалілася гумно Вінцука Маселя ў вёсцы Лубелевічах, Ляхавіцкай воласьці. У гумне згарэла сабранае, невымалачанае збожжа. Масель аблічае свае страты на 5 тысяч злотых. Гумно было застрахавана на 700 зл.

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Спыненьне працы Т-ва Беларускае Школы.

Дня 29 жніўня, па наказу Старосты горада Вільні часова спынена праца Цэнтральнага Ураду Т-ва Беларускае Щколы.

31 жніўня газэта „Słowo“ замяшчае комунікат Віленскага Ваяводзкага Ураду гэткага зьместу.

„У сувязі з часовым спыненьнем Старостам горада Вільні працы Цэнтральпага Ураду Таварыства Беларускае Школы, дня 29 жніўня явілася да Віленскага Ваяводы дэлегацыя беларускіх дзеячоў у асобах гр. гр. Крука, Астроўскага, Шнаркэвіча і Трэпкі, каторых з прычыны адсутнасьці ў Вільні п. Ваеводы, прыняў начальнік аддзелу п. Кіртікліс.

Дэлегацыя прасіла, аб адмене наказу віленскага Старосты датычна, часовага спыненьня працы Т-ва Беларускае Школы, кажучы, што наказ гэты ліквідуе ўсе здабычы культурна-прасьветнай працы Т-ва і вядзе да ліквідацыі гімназіі, канцэсію на каторую мае спыненае ў сваей працы Таварыства.

Дэлегацыя прасіла выясьненьня тых прычын, якія прывялі да спыненьня Урадам працы Таварыства.

Начальнік Аддзелу п. Кіртікліс, ад імя п. Ваяводы адказаў, што часовае спыненьне працы Т-ва Беларускае Школы ня мае на мэце зьніштажэньня здабыч Таварыства ў галіне культурна-прасьветнай; ня мае так-сама на мэце ліквідацыі Беларускае Гімназіі.

Наказ гэты быў выкліканы толькі неабходнасьцю захаваньня публічнай бясьпечнасьці, дзеля таго, што сыстэматычная абсэрвацыя над разьвіцьцём дзеяльнасьці Т-ва выказала, што Т-ва знаходзіцца пад уплывам элемэнтаў антыдзяржаўных і рэвалюцыйных, што шэраг паасобных гурткоў Т-ва быў гэтымі элемэнтамі апанаваны, што вучні Беларускай Гімназіі былі сталым аб‘ектам іх уплываў. Да ўсіх гэных зьявішч ўрад далей ня мог адносіцца індэфэрэнтна тым болей, што спробы паасобных сябтоў Т-ва, у тым ліку і старшыні яго, спробы, маючыя на мэце пакіраваць дзеяльнасьць Таварыства згодна са статутам у кірунку культурна-прасьветным, не далі ніякіх рэзультатаў.

Пан начальнік Кіртікліс заявіў дэлегацыі, што ў гэткіх умовах далейшая будучыня Т-ва Беларускае Школы цалкам залежыць ад адносін сябраў гэтага Т-ва да вымаганьняў улады“.

---

У зьвязку з спыненьнем дзейнасьці Т-ва палючай сталася справа гімназіі. Дзеля гэтага быў скліканы Бацькаўскі Камітэт, які ўзяў на сябе кіраўніцтва гімназіі. Дырэктарам гімназіі астаўся грам. Трэпка. Наагул ў гімназіі пачаліся нармальныя заняткі. У гэтым годзе паступіла шмат новых вучняў у гімназію.

### З Беларускага Аддзелу на Паўночным Кірмашы ў Вільні.

Экспонаты выстаўленыя Беларускім Гаспапарскім Зьвязам цешацца вялікім зацікаўленьнем. Шмат вырабаў ужо раскуплена.

### Пасольскі мітынг.

Пасол Каруза зладзіў 15 жніўня мітынг у Дзеркаўшчыне, Пастаўскага павету.

### Зварот актаў рэд. „Сахі“.

Апечатаныя разам з актамі Т-ва Беларускае Школы паперу рэдакцыі „Сахі“, зьвернены рэдакцыі.

## Аб усім патроху.

### Найменшыя гаспадарствы ў сьвеце.

**Княства Ліхтэнштэін** — з галоўным местам Вадур, мяжуецца з Аўстрыяй і Швайцарыяй; плошча 150 кілём.$^{2}$, жыхарства—40.000.

Княствам кіруець князь фон Ліхтэнштэйн. Жыхарства займаецца часткова земляробствам, гадоўляй быдла і рамесьніцтвам. Край зьведжае шмат турыстаў, што даець паважны даход гаспадарству. Падаткі жыхарства плаціць малыя, чужаземцы плацяць солана! Урад утрымлівае гранічную стражу і гвардыю княства ў колькасьці 300 асобаў. Пануючы князь фон Ліхтэнштэйн ёсьць адначасна судзьёй народу!

**Кн. Сан-Марыно**—якое знаходзіцца на тэрыторыі Італіі маець плошчу — 62 кіл.$^{2}$, жыхарства 14,500 кюдзей, пахаджэньня раманскага. Галоўнае места гэтага-ж назову, маець 9.000 жыхароў, Урад складаецца з двух рэгэнтаў, выбіраных з пасярод асьвечаных і заслужоных грамадзян, што 5 гадоў. Адзін з іх кірує ўнутранай палітыкай, да якой належыць і суды, другі — палітыкай вонкавай, г. зн. зважаньне на цэласьць межаў краю і на ўтрыманьне добрых адносінаў з Італіяй. Жыхарства займаецца земляробствам. Промысл і гандаль слабы. Адзіная чугунка перацінае край на дзьве часткі.

**Княства Монако**—абыймаець плошчу 38 кіл.$^{2}$. жыхароў 75.000, паложана над Францускай Рыв‘ерай ў цудоўнай ваколіцы, над морам. Галоўнае места Манако. Другім местам сьвятовае славы ёсьць Монтэ-Карло, дзе знаходзіцца Касыно гульні (рулетка) куды прыяжджаюць людзі ўсіх народнасьцяў з цэлага сьвету, шукаючы шчасьця ў гульні, з якой, ўрад княства маець аграмадны даход. Жыхарства займаецца рыбалоўствам. Другім заняткам ёсьць паказваньне мяйсцовасьцей, заслугоўваючых на ўвагу турыстам за добрую заплату, ведама. Пануець князь Альбэрт I, якога любіць увесь край за справядлівае ўрадаваньне. Вайсковага прымусу няма, апрача княжскай пешай і коннай гвардыі (150 людзей) ўрад утрымлівае паліцыю. Гаспадарства багатае. Мяйсцовае жыхарства падаткаў ня плаціць.

Грамадзяне ўсіх гэтых маленькіх гаспадарстваў вельмі шануюць перадусім сваю вольнасьць, гатовы заўсёды (кабеты, мужчыны, ўсе без розьніцы) бараніць яе перад ворагам — заборцай, які хацеў-бы іх незалежнасьць адабраць. З другога боку трэба прызнаць, што суседнія гаспадарствы не квапяцца зусім аб гэтым, каб забраць гэныя маленькія гаспадарствы, дзеля таго, што гэта каштавала-б ім больш, чымся варты гэтыя краі.

### Дзівацтвы вялікіх людзей.

Слаўныя людзі і гэніі мелі ўсе свае дзівацтвы і некаторыя з гэтых дзівацтваў больш памятаюцца, чымся ідэі іх твораў. Доказамі былі і ёсьць галоўным чынам пісьменьнікі:

Вось некатарыя з іх:

**Дікэнс**—любіў біжутэрыю і ўбіраўся з асаблівай элеганцыяй, ды больш цешыўся, калі яго хвалілі за добра выпрасаваныя нагавіцы, чымся тады, калі хто небудзь хваліў яго творы.

**Малады Дюма**—любіў купляць абразы. Пасьля выданьня кожнага твору купляў адзін абраз, а таму што ганарар за твор быў часамі маленькі, дык і абразы яго часам былі—Багамазы.

**Бэрнцон**—ідучы на спацар, браў з сабой усялякія зярняты і рассыпаў іх па дарозе.

**Байрон** — галіў бровы і жуў тытун; — гэтае апошняе ён рабіў, каб не растаўсьцець!

**Бальзак** — гаворачы аб сабе, здыймаў капялюх;

**Вальтэр Скотт** пісаў свае творы толькі ўва фраку;

**Конан-Дойль**, аўтар прыгодаў Шэрлока Холмса, не насіў ніколі плашча, нават зімой, а калі чытаў лекцыю, расшпіліваў камізэльку;

**Эдгард А. По**, амэрыканскі пісьменьнік сьвятовае славы, спаў з сваім катом і хваліўся формай сваіх ног;

**Шыллер** — меў звычай пішучы трымаць свае ногі ў халоднай вадзэ;

### Найвялікшы памятнік на сьвеце.

Найвялікшы памятнік, якога яшчэ сьвет ня бачыў, будуюць амэрыканцы у штаце Гэоргія ў памяць гэнерала Робэрта Леэ, які ў барацьбе за незалежнасьць Амэрыкі, адыграў вялікую ролю. Галава гэнерала на памятніку раўняецца вялікай камяніцы, а на яго далоні можна збудаваць малую хату. Фундамант памятніка будзе выносіць каля 5 вёрстаў, вышыня больш чымся 300 мэтраў. 240 каменшчыкаў працуе над гэтай будоваю пры помачы электрычных машынаў. Каштаваць ён будзе 270 тысячаў даляраў. Памятнік будзе скончаны праз два гады.

# Апошнія навіны.

**Швайцарыя.** Пачалася сэсыя Лігі Народаў. Між іншым Ліга Народаў мае на гэтай сэсыі разгледзіць справу польска-літоўскіх адносін. У дакладзе, зробленым гэнэральным сэкрэтаром Лігі, ён вельмі сурова асудзіў дыплёматычныя манэўры і злую волю Вальдэмараса.

Пасьля выступаў з дакладам аб стане польска-літоўскіх перагавораў галяндскі міністар замежных справаў. Свой даклад ён закончыў славамі расчараваньня. Пасьля яго выступаў польскі мін. заграгічных справаў Польшчы Залескі, які прадставіў становішча Польшчы у справе польска-літоўскага конфлікту. Польшча, казаў ён, дала довады добрай волі уладжаньня якнайлепшых узаімных адносін з Літвой. Аднак заўсёды напатыкае злую волю Літвы. Пасьля выступіў з прамовай праф. Вальдэмарас. Гаварыў ён болей за 3 гадзіны. Разводзіўся над нейкімі прыгатаваньнямі ваеннымі літоўскіх эмігрантаў на абшары Польшчы і г. д. Прамова праф. Вальдэмараса была прынята вельмі няпрыхільна.

Усе набіраюць пераканаьня, што праф. Вальдэмарас зусім сьведама тармозіць справу наладжаньня ўзаемных адносін.

Сьмех выклікала цьвярджэньне праф. Вальдэмараса, што найдагаднейшым шляхам камунікацыі між Літвой і Польшчай ёсьць камунікацыя праз Латвію, а не безпасярэдна.

Пасьля адказу мін. Залескага быў зроблены перарыў, пасьля якога мае Румунія запрапанаваць паклікаць дарадцаў для далейшых перагавораў. На гэта годзіцца Польшча, а не хоча згадзіцца Літва.

Справа літоўска-польскіх адносін чакае далей свайго вырашэньня.

**Францыя. Прыступленьне іншых дзяржаваў да пакту Келлога.** Да падпісанага нядаўна пакту Келлога далучыліся іншыя дзяржавы. Між іншымі камісар замежных справаў С.С.С.Р. Літвіноў паручыў паслу савецкаму ў Парыжы падпісаць пакт.

**Сьмерць францускага міністра гандлю.** Падчас лёту міністра гандлю Баканоўскага самалёт упаў з высокасьці 500 мэтраў і запаліўся. Усе пасажыры, ў том ліку і міністар, згінулі.

**Англія. Конгрэс трэд-юніёнаў.** У Еванеі пачаўся конгрэс ангелійскіх трэд-юніёнаў (профэсыянальных саюзаў) на якім ёсьць прысутных, якія рэпрэзэнтуюць 4 міліёны сарганізаваных рабочых.

**Нямеччына. Конгрэс нямецкіх проф.-саюзаў.** У Гамбургу адчынены 13-ты конгрэс гэрманскіх профэсіянальных саюзаў. Прысутных ёсьць 282 дэлегатаў, рэпрэзэнтуючых 35 саюзаў. На конгрэсе прысутны міністар працы Віссель, міністар гаспадарства Курціус, высшыя чыноўнікі міністэрства працы, а также прадстаўнікі заграгічных профэсіянальных саюзаў.

**С. С. С. Р. Вялікія манэўры пад Кіевам.** Як даносяць Кіеў прыняў вобраз вялікага ваеннага лагеру. Што дзень цягнікі з Масквы і Харкава прывозяць войскі і чырвоных камандзіраў, прыбываючых на манэўры.

Таксама адбываюцца вялікія манэўры балтыйскага флёту.

Аднача сна С. С. С. Р. найболей крычыць аб сусьветным разаружэньні.

**Кітай.** У Кітаю пачаліся ізноў ваенныя падзеі. Сын Чанг-Тсо-Ліна, за якім стаіць Японія, выступіў проціў нацыянальнае арміі Чай-Кан-Шэка.

З другога боку прадстаўнік нацыянальнага ураду ў Лізе Народаў дамагаецца сталага месца для Кітаю ў Радзе Лігі Нацыяў.

**Грэцыя. Эпідэмія.** У Грэцыі пануе вялікая эпідэмія. У самых Афінах захварэла 50 тысяч людзей. Азнакай хваробы ёсьць вялікая гарачка. Эпідэмія распаўсюджваецца ў суседніх дзяржавах.

**Польшча.** На ўсходні кірмаш у Львове прыехалі прадстаўнікі гаспадарскіх кругоў шмат якіх дзяржаваў. Прыехала таксама савецкая дэлегацыя. Кірмаш наагул выказвае вялікі поступ у гаспадарскім жыцьці Польшчы.

**Баранавічы.** У Баранавічах мае быць адкрыты аддзел Польскага Банку.

---

# Юрыдычныя парады.

**Адаму Міхневічу ў Залатухах.**

*Пытаньне.* Бацька меў 4 дачкі. Старшая перад 17-цю гадамі вышла замуж, другая перад 15-цью, трэцяя перад 13-цю гадамі, чацьвёртая наймалодшая вышла ў 1918 г. У 1919 годзе гэтая-ж малодшая ня зжылася з мужам і вярнулася да бацькі і жыла з бацькам да сёлеташняга году. Сёлета бацька памёр, гэтая младшая сястра пахавала яго і абрабляець зямлю. Тыя замужнія хочуць раздзяліць зямлю і гаспадарку, а малодшая хоча ім сплаціць. Дык ці ёсьць закон, каб ім сплаціць, а ня даць рваць зямлі і г. д.

*Адказ.* 1) Закону такога, каб суд выдзеляючы часьць сёстрам, наказаў сплачваць ім за гэтую іх часьць, няма.

Калі-б судом было прызнана права старшых сёстраў да спадчыны па бацьку, дык яны могуць браць зямлю.

2) Малодшая сястра можа выграць справу ў Судзе і нічога не даць сёстрам, калі ў Вашай ваколіцы (вёсцы, або воласьці) ёсьць такі звычай, *што выпасажаныя сёстры пры астаўшайся сястры на гаспадарцы, трацяць права да гаспадаркі.* Калі такі звычай істнуе і яго істнаваньне сьцьвердзяць сьведкі, паказаныя малодшаю сястрою і воласьцяй, дык яна выйграе суд і гаспадарка астаецца пры ёй.

3) Каб ня судзіцца, калі малодшая сястра хоча сплаціць, хай яна стараецца давясьці да згоды, узяўшы ад сёстраў зрачэньне права да бацькаўшчыны.

**В. Барташэвічу ў справе эмэрытуры.**

Нажаль, Вам трудна атрымаць эмэрытуру, бо маеце мала гадоў службы расейскае і яна ня будзе прызнана поўнасьцю.

---

## Цэны прадуктаў у Вільні.

| | | |
|---|---|---|
| Хлеб жытні пытлёвы | 00.60 | за 1 кілё |
| „ „ чорны | 00.40 | „ |
| „ „ пшонны | 1.00—00.70 | „ |
| Мука пшанічная | 00.85— 1.10 | „ |
| „ жытняя | 00.59—00.62 | „ |
| „ жытняя пытлёвая | 00.75—00.80 | „ |
| Ячменныя крупы | 00 80—00.90 | „ |
| Пансак | 00.70—00.80 | „ |
| Малако | 00.35—00.40 | за 1 літр. |
| Масла нясоленае | 5.00— 6 00 | за 1 кілё. |
| „ соленае | 3.50— 4.50 | „ |
| Сыр | 1.20— 1.60 | „ |
| Яйкі | 00.15—00.20 | за штуку. |
| Сьвежая сланіна | 4.00— 5.00 | за 1 кілё. |
| Бульба | 00.15 | „ |
| Морква | 00.35—00.50 | „ |
| Буракі | 00.35—00.50 | „ |
| Цыбуля | 00.40—00.60 | „ |
| Цукер (пясок) | 1.53— 1.60 | „ |
| „ (кавалкі) | 1.80— 1.90 | „ |
| Мыла | 1.50— 2.40 | „ |
| Газа | 00.63 | „ |
| Пшаніца | 11.00—12.00 | за 1 пуд. |
| Жыта | 9.00—10 00 | „ |
| Ячмень | 8.50— 9.00 | „ |
| Авёс | 8.00— 8.50 | „ |
| Каўбаса | 4.00— 7.00 | за 1 кілё. |
| Мяса валовае | 3.00— 3.20 | „ |
| Цяляціна | 2.00— 2.20 | „ |
| Сьвініна | 3.20— 3.50 | „ |
| Бараніна | 1.80— 2·00 | „ |
| Сена | 1.60— 2.20 | „ |

---

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

---



Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3